НАША СВАБОДА
№50 ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

18 ЖНІЎНЯ 2000 года ПЯТНІЦА
Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103
E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by
http://www.svaboda.com
КОШТ СВАБОДНЫ




# Праект «Цыганская кабыла»



Міністэрства замежных справаў Рэспублікі Беларусь распаўсюдзіла паведамленне, у якім пераказваецца змест допісу Аляксандра Лукашэнкі на адрас Генеральнага сакратара Савета Еўрапейскага Саюза, Высокага прадстаўніка па агульнай знешняй палітыцы і палітыцы бяспекі Хаўера Саланы. Але намнога раней за прэс-службу МЗС рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА атрымала з іншых крыніцаў не пераказ, а поўны тэкст допісу.

Пра што ж піша верны сябар і аднадумец Слабадана Мілошавіча свайму былому заклятаму непрыяцелю – нядаўняму Генеральнаму сакратару NATO, а зараз найбольш цвёрдаму ў дачыненні да дыктатарскіх рэжымаў еўрапейскаму палітыку? Усё пра тое ж. Аляксандр Лукашэнка стараецца прадаць Еўропе СВАЕ выбары: дэкларуе СВАЁ палітычнае крэда, абяцае пашырыць функцыі СВАЕЙ кішэннай «палаты», расхвальвае СВОЙ Выбарчы кодэкс, ды ўстаўляе ўсюды СВАЮ звыклую няпраўду. Дакумент, напісаны на трох старонках, пакідае адчуванне рэдкага па крывадушнасці ліста. У гэтым сэнсе яго можна лічыць гістарычным. Тэкст допісу дакладна зафіксаваў дэфіцыт сумлення ў яго складальнікаў. Хаваючыся за станоўчыя палітычныя тэрміны аўтары (у каторы ўжо раз!) стараюцца ўвесці ў зман міжнародную супольнасць. Замест выканання чатырох канкрэтных умоваў, на якіх дэмакратычная апазіцыя пагадзілася б удзельнічаць у выбарах, Аляксандр Лукашэнка абяцае ўвесці прадстаўнікоў палітычных партыяў у склад Цэнтральнай выбарчай камісіі і даць магчымасць кандыдатам у дэпутаты выступіць па тэлебачанні.

З гэтага дакумента мы можам даведацца, што ў нашай краіне існуюць усе неабходныя ўмовы для дэмакратычных выбараў, што ў апазіцыі да Лукашэнкі знаходзіцца меншасць нашага грамадства, што ў новым (?) Выбарчым кодэксе ўлічаныя «многие предложения ОБСЕ, Евросоюза, Совета Европы», што «лидеры оппозиции уже в течение многих месяцев регулярно появляются в государственном эфире, в том числе и прямом» і г.д. А вось як, напрыклад, вырашаецца Аляксандрам Лукашэнкам самая вострая праблема – праблема адсутнасці ўладных і заканадаўчых паўнамоцтваў у членаў так званай палаты прадстаўнікоў: **«Расширение функций парламента является неотъемлемой частью развивающихся в Беларуси общественных процессов. Это будет одно из направлений работы нового Парламента»**. (Мусіць, пачнуць пасылаць дэпутатаў, як студэнтаў, на сельгасработы? Гэта ж таксама можна назваць пашырэннем функцыяў). На час падрыхтоўкі і правядзення выбараў Лукашэнка абяцае **«не ухудшать условия деятельности общественных организаций, политических партий и групп, включая оппозиционные, свободных профсоюзов и независимых СМИ»**. (Вялікі дзякуй, што хоць на гэты час пакінеце людзей у спакоі.) А вось вытрымка, якую трэба прывесці поўнасцю, як найбольш характэрную: **«Исходя из соображений доброй воли, государство обеспечит всем желающим юридическую возможность участия в предстоящих выборах»**. (А я думаю, што такую магчымасць забяспечвае не чые-небудзь «соображения доброй воли», а Закон. У прыватнасці, Канстытуцыя).

Карацей кажучы, ў расійскай мове ёсць дакладны выраз, які найлепшым чынам характарызуе і гэты дакумент, і такую з'яву, якую нам яскрава дэманструе сённяшняя ўлада: «злокачественное словоблудие». Менавіта пад такой рубрыкай гэты ліст і захаваецца ў нашай памяці. ■

## НАВІНЫ

■ **Учора ў Мінску адбылася ўрачыстая цырымонія праводаў беларускіх спартоўцаў на Алімпіяду ў Сідней.** На цырымоніі прысутнічаў А.Лукашэнка, які атрымаў у падарунак «Сертыфікат №1 члена алімпійскай зборнай Беларусі», а таксама спартовую форму. Тым не менш, наколькі нам вядома, прэзідэнт Нацыянальнага алімпійскага камітэта А.Лукашэнка пакуль не збіраецца ехаць у сонечную Аўстралію, каб самому абараняць колеры Беларусі.

■ **Неафіцыйная сустрэча кіраўнікоў дзяржаваў СНД у Ялце, якая мусіць адбыцца сёння і заўтра, штодня губляе ўдзельнікаў.** Ад самага пачатку пра няўдзел у ёй заявіў толькі прэзідэнт Туркменістана Сапармурат Ніязаў. Але цяпер ехаць у Ялту адмовіліся прэзідэнты Узбекістана Іслам Карымаў і Кыргызстана Аскар Акаеў. Сваю адмову яны матывавалі тым, што ў іхніх дзяржавах абвастрылася становішча ў сувязі з «актыўнымі выступленнямі атрадаў ісламскага фундаменталізму».

■ **Прэзідэнт Латвіі Вайра Віке-Фрайберга збіраецца наведаць Украіну.** Учора яна пакінула Латвію разам з мужам і збіраецца вярнуцца туды толькі 29 жніўня. Невядома, дзе менавіта Вайра Віке-Фрайберга збіраецца адпачываць з сям'ёй, але яна ўжо паведаміла, што абавязкова наведае калісьці вельмі папулярны курорт – Крым, паведаміла прэс-сакратарка прэзідэнта Айва Розэнберга. Дагэтуль прэзідэнт Латвіі была ва Украіне толькі аднойчы – летась, калі там праходзіла сустрэча кіраўнікоў дзяржаваў рэгіёнаў Балтыйскага і Чорнага мораў. З пачатку жніўня В.Віке-Фрайберга знаходзіцца ў адпачынку. У савецкія часы ёй не давялося адпачываць у Крыме, бо большую частку жыцця яна пражыла ў Канадзе.

■ **Буйное рабаўніцтва адбылося ўчора ў Бразіліі.** Пяцёра невядомых злачынцаў захапілі пасажырскі самалёт кампаніі *VASP* і скралі з бартавога сейфа больш за 4 мільёны долараў. Пасля гэтага бандыты прымусілі пілота пасадзіць самалёт на маленькім лётным полі ў мястэчку Парэсату на поўдні краіны і ўцяклі з каштоўным здабыткам. Пасля гэтага самалёт з 66 пасажырамі на борце зноў падняўся ў паветра.

# «БДГ» уронила лицо

Тамаш ПАЛЬМАЧИНСКИЙ

«Белорусская деловая газета» уклонилась от участия в свободном диспуте независимых журналистов о необходимости участия демократических кандидатов в грядущих выборах в лукашенковский «парламент». Как известно, «БДГ» фактически выступает в поддержку такого участия и всячески пытается педалировать эту тему на своих страницах. Об этом свидетельствует, мягко говоря, некорректная информация, представленная в материалах «БДГ», посвященных выборам. Читателя вводят в заблуждение утверждением, что демократическая оппозиция уже идет на выборы, в материалах называются фамилии выдвиженцев, которые в личных беседах с журналистами отказываются от такой сомнительной чести. В положительном контексте дается преимущественно одна точка зрения на выборы.

Такой подход к проблеме одной из самых уважаемых белорусских газет не мог остаться без внимания их коллег, и редакция «БДГ» получила приглашение на диспут со свободным освещением его в печати и по каналам информационных агентств. Инициатором диспута выступил Николай Халезин, который для этого даже разработал регламент. Однако редакция «Белорусской деловой газеты» не нашла в себе мужества защитить свою точку зрения на публике. ■

# Дырэктара забілі з італьянскай «Берэты»?

Ірына ШАНЦАВА

Праваахоўныя органы, што расследуюць крымінальную справу па факце забойства генеральнага дырэктара ААТ «Гомельшкло», мяркуюць, што імі знойдзены пісталет, з якога 4 жніўня быў застрэлены Уладзімір Запольскі.

Увечары 14 жніўня зброю знайшоў прахожы ў пяці метрах ад праезнай часткі на ўскраіне Гомеля. Ён спыніў патрульную машыну ДАІ і паведаміў супрацоўнікам аб знаходцы. Гэта — «Берэта», зброя італьянскай вытворчасці, забяспечаная прыстасаваннем для бясшумнай стральбы. У абойме знаходзіліся 5 патронаў і яшчэ адзін быў у ствале. Пісталет накіраваны на балістычную экспертызу ў Мінск.

Мяркуецца, што злачынцы, выязджаючы з горада, маглі выкінуць зброю праз акно аўтамабіля. Як паведамілі ў прэс-службе УУС Гомельскага аблвыканкама, зараз рыхтуецца інфармацыйны зварот да грамадзянаў з мэтай знайсці відавочцаў гэтай падзеі. Інфармацыю прапануецца паведамляць або па спецлініі **«02»**, або Упраўленню крымінальнага вышуку па тэлефоне ў Гомелі **52-66-86**.

**P.S.** Як стала вядома НАШАЙ СВАБОДЗЕ, па справе аб забойстве гендырэктара «Гомельшкла» Уладзіміра Запольскага днямі быў затрыманы вадзіцель Аляксандр Гарнастаеў. Ніякага каментара з прычыны затрымання Гомельская абласная пракуратура не дае. Аднак, па нашай інфармацыі, менавіта ў дзень забойства дырэктара А.Гарнастаеў падмяняў вадзіцеля яго службовай «Волгі». ■

БелаПАН

## НАДВОР'Е НА ЗАЎТРА




Курс наяўнага долара на «чорным рынку» 1000


Падрабязнасці пра ўмовы падпіскі на стар. 6

# Байкот!

Аляксей ШЫДЛОЎСКІ

**Стратэгія дзейнняў аб'яднанай дэмакратычнай апазіцыі падчас восеньскай палітычнай кампаніі, стаўленне да выбараў у палату прадстаўнікоў 15 кастрычніка, бліжэйшыя буйныя масавыя акцыі – пра гэта ішла гутарка на прэс-канферэнцыі, што прайшла ў аўторак у штаб-кватэры партыі БНФ.**



Фота Ул.ШЛАПАКА

Старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоль Лябедзька выклаў распрацаваны кіраўніцтвам апазіцыі план дзеянняў на восень. Палітычная восень-2000 — вельмі важны, але толькі сегмент агульнай «стратэгіі перамогі». Па словах кіраўніка АГП, аб'яднаная апазіцыя абвяшчае актыўны байкот восеньскай палітычнай кампаніі. А.Лябедзька падкрэсліў, што актыўны байкот – гэта не толькі адмова людзей ісці на выбарчыя ўчасткі ў «дзень падману» 15 кастрычніка. У першую чаргу неабходна «не даць Лукашэнку перахапіць палітычную ініцыятыву, не даць узмацніць свае пазіцыі напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў». Уся кампанія будзе праходзіць у падтрымку адзінага легітымнага заканадаўчага органа — Вярхоўнага савета — і супраць інкарпарацыі Беларусі ў склад Расіі.

Кампанія таксама павінна служыць прыходу большай колькасці людзей у структуры дэмакратычнай апазіцыі і распрацоўцы плана абароны гэтых людзей падчас удзелу ў масавых акцыях.

З першага верасня пачнецца актыўны збор подпісаў за чатыры ўмовы, прапанаваныя АБСЕ і неабходныя для правядзення дэмакратычных выбараў. Плануецца шэраг буйных масавых акцыяў.

1 кастрычніка па вуліцах Мінска пройдзе «Марш Свабоды-3», а 8 кастрычніка адбудуцца вулічныя акцыі ў рэгіёнах пад агульнай назвай «Выбарам – так! Фарсу – не!» Пакуль што не прынятае канчатковае рашэнне наконт даты 14 кастрычніка – ці будзе якая акцыя напярэдадні выбараў у палату. У лістападзе пройдуць акцыі супраць збяднення людзей. Наймацней акцыя «актыўны байкот» будзе праходзіць у 22 гарадах Беларусі, дзе насельніцтва больш за 50 тысяч чалавек.

У выступах астатніх палітыкаў прагучала часам вельмі жорсткая крытыка тых прадстаўнікоў дэмрухаў, што пайшлі на выбары. Валянціна Палевікова (партыя «Надзея»): «...у спісе балатуемых у палату няма ніводнага паважаемага намі чалавека...». Павел Данэйка (АГП): «...яны самі выкінулі сябе за межы дэмакратычнай апазіцыі... ды што гэтыя 40–60 чалавек, калі ў дэмпартыях у наяўнасці не менш за пятнаццаць тысяч чалавек!» Крытыкавалі Міхаіла Чыгіра і Міколу Статкевіча, які таксама ўжо зарэгістраваў сваю ініцыятыўную групу па вылучэнні ў дэпутаты. Але напрыканцы была выказаная ўпэўненасць у тым, што «...гэтыя людзі хутка зразумеюць свае памылкі і далучацца да кампаніі байкоту».

Намеснік старшыні БНФ аб'явіў таксама пра выпрацоўку працэдуры так званых папярэдніх прэзідэнцкіх выбараў (па аналагу ЗША) з мэтай вылучэння на выбарах прэзідэнта ў 2001 годзе адзінага кандыдата.

Былі абнародаваныя даныя сацыялагічных даследаванняў лабараторыі НІСЭПД, згодна з якімі зараз, яшчэ да пачатку кампаніі «актыўны байкот» толькі 48 працэнтаў жыхароў Беларусі гатовыя прыняць удзел у выбарах пры ўмове непрыезду міжнародных назіральнікаў і непрызнання выбараў светам. Таксама быў адзначаны значны рост пратэстнага электарата Па словах выступоўцаў, акцыя «актыўны байкот» не можа не атрымацца, а «выбары і псеўдапарламент не будуць прызнаныя». ■

ФОТАФАКТ


Фота Ул.ШЛАПАКА

● Беларуская алімпійская каманда перад адбыццём у Аўстралію ўскладае кветкі да помніка Перамогі

# Александр Григорьевич сердится

Никита ПАВЛОВ

**Правоохранительные органы республики не угодили Александру Лукашенко. В четверг, встречаясь с силовиками, он подверг резкой критике их деятельность. Очевидцы рассказывают, что А.Лукашенко несколько раз срывался до откровенных ругательств.**

Нельзя себя убаюкивать в то время, когда преступный мир окутал соседние государства, заявил он. Особенно Александра Григорьевича возмутил тот факт, что по работе гаишников и следователей судят и о его деятельности.

Больше всего влетело сотрудникам ГАИ. Очевидно, Лукашенко несколько раз тормознули во время его частных поездок, когда президент самолично водит автомобиль без мигалок. Не исключено, что какой-то гаишник, не узнав всенароднонзбранного, потребовал у усатого водителя в темных очках штраф за превышение скорости и отсутствие разрешения на тонировку ветрового стекла. Иначе откуда главе государства знать, что сотрудники ГАИ занимаются вымогательством, вместо того, что бы помогать водителям на дорогах?

Досталось и Михаилу Удовикову, который лично в ответе за последние заказные убийства в стране. Лукашенко также возмутил неуклонный рост преступлений, совершаемых сотрудниками МВД и других правоохранительных органов.

Обратив внимание на факты взяточничества в структурах приграничья, о таможне с точки зрения коррупции Лукашенко вообще промолчал. Видимо, слов не хватило.

КГБ оказался виновен в том, что до сих пор не сидят те, кто должен сидеть в тюрьме. Громкие дела находятся под контролем президента, что совершенно не влияет на динамизм их раскрытия.

Лукашенко высказал недоумение, что правоохранительные органы не задержали и не предъявляют никаких претензий к бывшему директору Бобруйского гидролизного завода. Семнадцать работников завода были осуждены за хищения с данного предприятия спирта, однако руководитель завода оказался вне поля зрения правоохранительных органов, удивился он.

Еще большее удивление главы государства вызвала безучастность правоохранительных органов по отношению к Тамаре Винниковой. Сбежавшая из-под бдительной охраны президентских сторожевых псов банкирша объявилась в Лондоне, журналисты ее находят, интервью берут, а следователь через Интерпол потребовать ее выдачи не может.

Силовикам приказано начхать на призывы западных правозащитных организаций прекратить преследование политических деятелей, и велено доводить все дела до конца, не интересуясь политикой. И это после уверений А.Лукашенко в адрес Европы, что в республике предпринимаются шаги по улучшению климата доверия в стране. ■

ЗАМЕЖЖА

## Роналдо в роли благотворителя

Знаменитый 23-летний нападающий сборной Бразилии и итальянского футбольного клуба «Интер» Роналдо открыл в торжественной обстановке стоматологический центр в Рио-де-Жанейро. Он построен при финансовом содействии футбольной «звезды»: игрок оплатил закупку необходимого медицинского оборудования. Этот центр рассчитан на прием 400 детей и подростков в месяц. Роналдо был недавно назначен послом ООН по борьбе с бедностью. В настоящее время бразильский нападающий лечится в Рио-де-Жанейро от травмы правого колена. ■

ИНТЕРФАКС

## В тюрьму за питбультерьера

Полгода придется провести в тюрьме по приговору суда французского города Руан 20-летнему Жереми Акмену за то, что он натравил свою бойцовую собаку породы питбультерьер на четырех человек. Трое прохожих отказались дать ему денег, которые он у них выпрашивал. Тогда он снял с собаки намордник и приказал ей атаковать их. Находившийся неподалеку полицейский попытался вмешаться, но и ему досталось от собаки. Все четверо были доставлены в больницу с серьезными покусами. В выступлении на процессе прокурор заявил, что обвиняемый «использовал собаку как оружие». Во Франции давно бьют тревогу относительно поведения питбультерьеров. Все собаки этой породы должны быть кастрированы, зарегистрированы и периодически проверяться. Запрещено ввозить их во Францию, а также торговать ими. Аналогичные меры принимаются и в большинстве европейских стран. ■

ИНТЕРФАКС

## Папа открыл Всемирные дни молодежи

Папа римский Иоанн Павел II открыл во вторник в итальянской столице XV Всемирные дни молодежи, которые призваны стать одним из центральных событий Святого года, объявленного католической церковью в ознаменование 2000-летия христианства. Выступая с балкона одного из римских соборов перед 200 тыс. юношей и девушек, главным образом итальянцев, собравшихся на церемонию открытия праздника, верховный иерарх католиков призвал их «не иметь страха и открыть свои сердца Иисусу Христу». По его словам, «служба Христу означает свободу». По свидетельствам очевидцев, Папа, несмотря на жару в этот день, выглядел бодро и одаривал собравшихся улыбками. После этой церемонии Иоанн Павел II направился на площадь Святого Петра в Ватикане, чтобы приветствовать ожидающих его там около 400 тыс. юношей и девушек, прибывших на торжества из-за рубежа. Апогеем Всемирных дней молодежи станет торжественное богослужение 20 августа в летнем лагере Тор Вергата на окраине Рима. Как ожидается, в мессе примут участие 1,5 млн. юношей и девушек из 160 стран мира. ■

ИНТЕРФАКС

## Посол хочет устроиться на полставки мойщиком окон

Посол Чехии в Великобритании Павел Сейфтер хочет устроиться на полставки мойщиком окон в лондонских небоскребах и уже подал заявку на этот счет в соответствующие службы занятости. Как сообщили в среду британские СМИ, 62-летний чешский дипломат пояснил свое необычное желание тем, что хотел бы вернуться в свое прошлое, а заодно проверить, будет ли у него кружиться голова, если мыть окна на такой высоте. В прошлом П.Сейфтер, являвшийся диссидентом в социалистической Чехословакии, подрабатывал мойщиком окон. В среде знакомых он слывет эксцентричным человеком. МИД Чехии пока затрудняется с комментарием относительно пожелания посла. Официальный представитель внешнеполитического ведомства сообщил, что П.Сейфтер сейчас формально находится в отпуске в неизвестном месте, и до разговора с ним на эту тему рано делать окончательные выводы. ■

ИНТЕРФАКС

## Паліцыя Ізраіля вынайшла злачынцаў

Мікалай КАШАРОЎСКІ

**Ізраільская паліцыя затрымала двух падазроных у падпале будынкаў у Тэль-Авіве ў ноч на 11 жніўня.**

У адным з іх знаходзіўся офіс прадстаўніцтва беларускай авіякампаніі «Белавія». Пажар успыхнуў пасля таго, як невядомы, што належыць, як мяркуецца, да мясцовых радыкалаў, кінуў бутэльку з запальнай сумессю ў акно магазіна «Амстэрдам», размешчанага на першым паверсе будынка. У выніку пажару будынак моцна пацярпеў. Памяшканне, у якім знаходзіўся офіс прадстаўніцтва «Белавія» (каля 70 квадратных метраў), выгарала поўнасцю. Агнём знішчаныя дакументацыя, мэбля, дарагое абсталяванне.

Як паведаміў БелаПАН прадстаўнік «Белавія» ў Тэль-Авіве Ігар Гаўрылюк, інтарэсы беларускай авіякампаніі зараз прадстаўляе адна з адвакацкіх кантораў Ізраіля. Пасля вызначэння памераў прычыненага «Белавія» ўрону будзе пачаты працэс спагнання адпаведнай сумы. Дарэчы, будынак быў застрахаваны ўладальнікам.

Самалёты «Белавія» выконваюць рэйсы з Мінска ў Тэль-Авіў два разы ў тыдзень. Прадстаўніцтва, паводле словаў Гаўрылюка, прадпрыме ўсе меры, каб гэтае здарэнне не адбілася на выкананні абавязацельстваў беларускай авіякампаніі перад пасажырамі і грузаадпраўшчыкамі.

Раней генеральны дырэктар «Белавія» Анатоль Гусараў заявіў, што кіраўніцтва кампаніі сумесна з Дзяржкамітэтам па авіяцыі, міністэрствам замежных спраў і пасольствам Рэспублікі Беларусь у Дзяржаве Ізраіль «будзе ажыццяўляць шчыльны кантроль за ходам расследавання, каб прычыненыя матэрыяльныя і фінансавы ўрон нашай авіякампаніі быў у поўнай меры пакрыты». ■

БелаПАН

# Дэпутацтва не пахне

Рыгор БУЯН

**З 9 палітычных партыяў, аб'явіўшых сябе апазіцыйнымі, толькі БНФ , Грамада (Станіслаў Шушкевіч), «Надзея», АГП (Анатоль Лябедзька) адмовіліся ўдзельнічаць у восеньскім фарсе – менавіта так аб'яднаная апазіцыя поўным складам зусім нядаўна называла выбары ў палату прадстаўнікоў. ПКБ, Беларуская партыя працы, ЛДП – не скрываюць, што сваіх кандыдатаў вылучаць будуць.**




Яшчэ год таму названыя партыі ды БНФ (крыло Зянона Пазьняка) утварылі апазіцыйную кааліцыю – КСАПП, прыняўшы за аснову вяртанне Канстытуцыі 1994 года. Апошні год апазіцыянеры патрабавалі ад уладаў выканання чатырох умоваў міжнароднай супольнасці, пагражаючы ў адваротным выпадку байкатаваць выбары. Але як толькі замаячыла перспектыва спакойнага працаўладкавання, няхай сабе і ў кішэннай палаце прадстаўнікоў, многія апаненты рэжыму стрымгалоў кінуліся на выбары. Куды падзелася прынцыповасць! Перафразуючы рымскую прыказку, іхнюю пазіцыю можна ахарактарызаваць наступным чынам: дэпутацтва не пахне...

ЛДП вядомая сваёй беспрынцыпнасцю, таму ніхто і не сумняваўся, што лібералы не проста пойдуць, а пабягуць у палату прадстаўнікоў. Лідэр ЛДП Сяргей Гайдукевіч сцвярджае, што партыя вылучыць 110 кандыдатаў у дэпутаты – па чалавеку на выбарчую акругу. Аднак канчатковае рашэнне будзе прынятае на сёмым з'ездзе ЛДП, які пройдзе ў Палацы культуры чыгуначнікаў у Мінску 26 жніўня. Рашэнне будзе прымацца зыходзячы з умоваў правядзення выбарчай кампаніі. Але ўжо зараз С.Гайдукевіч гаворыць пра адсутнасць умоваў для дэмакратычных выбараў, у прыватнасці, абураецца тым, што з 23.456 падрыхтаваных яго партыяй (???) наглядальнікаў за ходам выбараў будуць сачыць крыху больш за 7 тысяч лібералаў. Гэта звязанае з тым, што калі раней на ўчастку маглі працаваць некалькі наглядальнікаў ад партыі, то пасля тлумачэння Цэнтрвыбаркама – толькі адзін. «Галоўная задача – паказаць усяму свету, што ў нас за выбары праходзяць. І зрабіць гэта можна не седзячы на канапе, а папрацаваўшы рукамі», – упэўнены С.Гайдукевіч, абвінавачваючы былых калегаў па апазіцыі ў халатным бяздзеянні. Партыйны лідэр, апроч таго, успрымае выбары ў палату прадстаўнікоў не як самамэту, а як трамплін на прэзідэнцкія выбары.

Партыя камуністаў мае каля 80 «рэальных кандыдатаў» у дэпутаты, хаця канчатковая пазіцыя ПКБ адносна выбараў будзе сфармуляваная толькі 19 жніўня на з'ездзе. Па Мінску ўжо дзесяць, а па рэспубліцы – каля 35 «калякінцаў» зарэгістравалі ініцыятыўныя групы. Пасля ўдзелу камуністаў у выбарах мясцовых саветаў у сакавіку мінулага года, праігнараваных астатняй апазіцыяй, пасля вылучэння сваіх прадстаўнікоў у акруговыя выбарчыя камісіі на парламенцкіх выбарах, ніхто не сумняваўся ў пазіцыі «калякінцаў». Першы сакратар ЦК ПКБ Сяргей Калякін зарэгістраваў сваю ініцыятыўную групу ў Коласаўскай выбарчай акрузе №105 Мінска; сакратар ЦК Алена Скрыган спрабуе прайсці ў палату прадстаўнікоў па Копыльскай выбарчай акрузе №82.

БСДП (Народная Грамада) прыняла рашэнне не ўдзельнічаць у выбарах, але і не забараніла сваім сябрам вылучацца кандыдатамі ў дэпутаты. Прыклад старшыні сацыял-дэмакратаў Міколы Статкевіча, які ідзе па Каліноўскай выбарчай акрузе №107 сталіцы разам з іншымі сямю сапернікамі, фактычна даў зялёнае святло ўсёй партыі: як кажуць, дурны прыклад заразны. Толькі па Мінску зарэгістраваныя чатыры ініцыятыўныя групы па зборы подпісаў за сябраў БСДП, у тым ліку і М.Статкевіча. У астатнюю «тройку» ўвайшлі першы намеснік старшыні Алесь Арэстовіч, член ЦК Народнай Грамады Алег Волчак і Стэфан Худалей. Сітуацыяй у рэгіянальных структурах партыі М.Статкевіч не валодае: «Партыя ў выбарах не ўдзельнічае, таму мы і не збіралі такую інфармацыю па рэгіёнах». Намер М.Статкевіча ісці ў палату крыўдны. Многіх гэты крок шакіраваў.

У вір перадвыбарных інтрыгаў закруціла і Аб'яднаную грамадзянскую партыю. Палітсавет у канцы ліпеня вызначыў фармат удзелу партыі ў кампаніі як «актыўны байкот». «Ні аднага сябра АГП на выбарах не будзе», – заявіў старшыня АГП Анатоль Лябедзька. Між тым, ёсць інфармацыя, што зарэгістраваў ініцыятыўную групу дэпутат ВС 13-га склікання лідэр «Грамадзянскага форуму» (маладзёжнае крыло АГП) Уладзімір Навасяд і прыпыніла членства ў АГП Юлія Чыгір.

Беларуская партыя працы даўно ўжо вырашыла не вылучаць сваіх кандыдатаў у дэпутаты. Але для аднаго з лідэраў — Аляксандра Бухвостава, які адначасова ўзначальвае афіцыйны прафсаюз аўтамабільнага і сельскагаспадарчага машынабудавання, — зробленае выключэнне. Ініцыятыўная група дэпутата Вярхоўнага Савета 13-га склікання зарэгістраваная ў Мендзялееўскай выбарчай акрузе Мінска №109. Старшыня БПП Леанід Лемяшонак асабліва падкрэсліў, што А.Бухвостаў ідзе ў дэпутаты не як прадстаўнік партыі, а ў якасці «незалежнага» кандыдата. Па суседству з вядомым апазіцыянерам – у Трактаразаводскай акрузе №110 балатуецца цяперашні дэпутат палаты прадстаўнікоў Анатоль Красуцкі. У БПП ёсць яшчэ некалькі чалавек, якія, верагодна, пойдуць у палату ад працоўных калектываў.

А вось прынцыповасць другой партыі, якая «вырасла» з прафсаюзаў, — Партыі жанчын «Надзея» прыемна ўразіла. Нягледзячы на жаданне многіх партыйцаў балатавацца ў палату, Савет «Надзеі» яшчэ 25 ліпеня прыняў рашэнне не ўдзельнічаць у выбарах. Прычым, прафсаюзна-жаночая партыя для сваіх сябраў, у адрозненне ад БПП, не рабіла выключэння. Старшыня «Надзеі» Валянціна Палевікова, якая ўзначальвае і выканкам ФПБ, выказала неразуменне таго, што лідэры апазіцыі Мікола Статкевіч і Аляксандр Бухвостаў балатуюцца ў дэпутаты палаты незаконнага парламента.

Яшчэ не сцерліся з памяці ўспаміны пра тое, як зусім нядаўна і М.Статкевіч, і А.Бухвостаў, і іншыя «незалежныя» кандыдаты ў палату выводзілі на вулічныя пратэсты людзей, якіх улады білі, саджалі ў турмы, штрафавалі. Дзеля чаго тады цярпелі прыхільнікі апазіцыі? Дзеля таго, выходзіць, каб «незалежныя» кандыдаты сваім удзелам у выбарчай кампаніі садзейнічалі легітымізацыі непрызнанай цывілізаваным светам палаты прадстаўнікоў. ■

Рэдакцыя прапануе сваім падпісчыкам аформіць падпіску праз аддзяленні «Беларусбанка».

Для афармлення падпіскі адпаведную квітанцыю (гл. ніжэй) трэба выразаць нажніцамі. Адзначце ў квітанцыі тэрмін, на які афармляеце падпіску, прозвішча падпісчыка і паштовы адрас, на які дастаўляць газету.

**Кошт падпіскі на адзін месяц 675 руб. Калі вы жадаеце падпісацца на больш тэрмін, то павялічце суму ў адпаведную колькасць разоў.**

## КВІТАНЦЫЯ ДЛЯ «БЕЛАРУСБАНКА»

Форма № ПД-5

**ИЗВЕЩЕНИЕ**

УНН 101562750 Редакция газеты «Наша СВАБОДА»
получатель платежа
Отделение «Центральное» ОАО «Белбизнесбанк»
г.Минск, код 493; Минск, пл.Свободы, 17
наименование банка

Счет получателя 3012205160015 Лицевой счет

(фамилия,имя,отчество)

(адрес)

На 2000 год по месяцам:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

| За подписку на газету «Наша СВАБОДА» | Сумма |
|---|---|
| Пеня | |
| Всего | |

Плательщик

Кассир

УНН 101562750 Редакция газеты «Наша СВАБОДА»
получатель платежа
Отделение «Центральное» ОАО «Белбизнесбанк»
г.Минск, код 493; Минск, пл.Свободы, 17
наименование банка

Счет получателя 3012205160015 Лицевой счет

(фамилия,имя,отчество, адрес)

На 2000 год по месяцам:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

**КВИТАНЦИЯ**

| За подписку на газету «Наша СВАБОДА» | Сумма |
|---|---|
| Пеня | |
| Всего | |

Кассир

Плательщик

АРМІЯ

# «Не заўсёды ўстаноўленым парадкам...»

Сяргей МАКСІМОВІЧ

**Летам не толькі адбываюцца баі за ўраджай, але і вайсковае жыццё не замірае. 11-ая Слонімская механізаваная брыгада праводзіла нядаўна вучэбныя стрэльбы. А са сталіцы якраз заехалі замежныя вайсковыя аташэ. Ім таксама далі пастраляць. З аўтамата Калашнікава. Трапныя аказаліся стралкі. Польскі палкоўнік М.Валошык падараваў слонімцам на памяць свой вайсковы мундзір. Для брыгаднага музейчыка.**

А ў Ліду на прысягу прыязджаў камандуючы войскамі СПА В.Кастэнка. Маладым ракетчыкам ён паведаміў наступнае: «Для мяне ваша часць асаблівая. Пасля вываду расійскіх войскаў з тэрыторыі Беларусі яе хацелі ліквідаваць. Можна сказаць, што і не заўсёды ўстаноўленым парадкам я дамогся, каб на самым фарпосце нашай краіны стаяла ракетная часць». Намёк усе зразумелі—непадалёк знаходзіцца Літоўская Рэспубліка. Маўляў, трэба бараніцца. Аднак хацелася б нагадаць камандуючаму, што «у страха вочы празмерна вялікія». Беларуская энцыклапедыя паведамляе, што ў рэгулярных узброеных сілах Літвы служыць усяго 5,2 тысячы чалавек. Літоўская авіяцыя налічвае 10 самалётаў, 8 верталётаў і 550 чалавек асабовага складу.

Варта нагадаць таксама, што ў Лідзе існуе яшчэ авіябаза і немалая. Не кажу ўжо пра памежны атрад і міліцэйскі батальён. Так што баяцца давоздзіцца нас літоўцам, а не наадварот. ■

КАНФЕСІІ

# За ксяндза заплацілі слязамі і штрафамі

Надзея СВЯТЛІЧНАЯ

**У Брэсце ў канфліктнай сітуацыі па прымусовым адлучэнні ад службы ў касцёле Узвіжання Святога Крыжа настаяцеля прыхода грамадзяніна Польшчы ксяндза Збігнева Кароляка верх узяла сіла ўлады.**

Пакінуўшы межы Беларусі пад пагрозаю афіцыйнай дэпартацыі, ксёндз ужо не вернецца, бо кардынал Казімір Свёнтак падпісаў свой дэкрэт аб прызначэнні ў брэсцкі касцёл Яна Васілеўскага з суседняга горада Высокае, а заадно падзякаваў Збігневу Кароляку за годную службу Богу і людзям. Паводле звестак з Польшчы, апальны ў Беларусі ксёндз атрымаў з 10 жніўня прыход у Драгічыне над Бугам, які, дарэчы, з'яўляецца для яго радзімным месцам.

Такім чынам, улада Брэста нарэшце расквіталася з замежцам, не даравўшы яму перамогу над сабою ў 1995 годзе, калі ксяндзу Кароляку ўдалося выселіць краязнаўчы музей з будынка на цэнтральнай плошчы і пачаць тут богаслужэнне. У 1996 годзе ксяндзу не падоўжылі права на ажыццяўленне рэлігійнай дзейнасці, з-за чаго ён меў пагрозы, з пачатку 2000 года — арышты ў храме, суды і штрафы. 14 красавіка бягучага года пашпартна-візавая служба паставіла ў пашпарт паляка штамп аб неабходнасці пакінуць Беларусь на працягу месяца.

За «вайну» ксяндза з уладаю заплацілі прыхажане. На пікетах ля парога будынка Брэсцкага аблвыканкама былі масавыя затрыманні. Найбольш актыўныя прыхажане, у прыватнасці 7 жанчын, і сярод іх інваліды II групы, абвінавачаныя ў парушэнні рэжыму дзейнасці аблвыканкама і аштрафаваныя ў судзе Ленінскага раёна па 13 тысяч рублёў кожная. Канфесійнае іншадумства нашая ўлада не прывячае. ■

# Одни не знают, где взять, другие — куда деть

Константин СКУРАТОВИЧ

**Всеми признано в качестве аксиомы: государство всегда вмешивается в дела сельского хозяйства и регулирует происходящие там процессы. Делается это, что называется, независимо от части света, климатических условий и форм собственности.**

Но делается далеко не одинаково. Например, западные правительства обеспокоены угрозой, связанной с потенциально беспредельными возможностями роста сельхозпроизводства в условиях, когда современные технологии применяет подверженный индивидуальному и групповому эгоизму частный производитель. Поэтому, как пишут в учебниках, правительства разрабатывают программы ограничения производства (например, вводят квоты посевных площадей или квоты сбора для каждой фермы), которые преследуют цель добиться сокращения производства продукции и повышения цен. Этим, кстати, квоты принципиально отличаются от наших госзаказов, которые директивно устанавливаются практически на уровне максимальных возможностей колхоза или совхоза.



Фота IREX/ProMedia

Дело в том (такова специфика экономического развития в условиях рынка), что в сельском хозяйстве производительность труда растет быстрее, чем в промышленности. Значит, опережающими темпами растет производство и предложение сельхозпродукции. А потребление ее всегда ограничивается «потребностями желудка», поэтому его увеличение, как правило, напрямую связано с ростом народонаселения. Понятно, что в цивилизованных странах домашнюю живность держат только любители экзотики. Поэтому продукты на семейную кухню попадают или в готовом виде, или, что чаще бывает, как требующие минимальной обработки полуфабрикаты. А поскольку (в полном соответствии с законом возвышения потребностей) культура приема пищи, питания постоянно совершенствуется, то происходит это в основном за счет совершенствования переработки и упаковки исходного продукта и технологии приготовления пищи. В итоге в «сытых» странах для увеличения реализации на 10-15% необходимо снизить цены на 40-60%. А удержание цен на уровне 70% паритета (паритет существует, если каждая единица сельхозпродукции приносит такой же по стоимости эквивалент промышленной продукции), приводит к колоссальному перепроизводству «харчей», катастрофическому накоплению их запасов. Вот и выходит, что квотирование следует ужесточать. Но при сокращении посевных площадей снижаются общие затраты фермерских хозяйств, и они получают возможности для интенсификации производства и его роста.

В итоге государство производит вынужденные закупки в счет запасов (для армии, на случай стихийных бедствий, для оказания гуманитарной помощи тем странам, население которых себя прокормить не может, для других нужд). Но всякий раз это достаточно неустойчивое равновесие нарушается, и тогда мы можем увидеть по телевизору такие экзотические для нас явления, как «баррикады» из говяжьих туш, возводимые европейскими фермерами перед зданиями сельхоздепартаментов, «яичницы из миллионов яиц», разбиваемых на асфальте, оливковое масло, цистернами выливаемое на дороги. Иногда складывается впечатление, что западное фермерство вообще существует по недоразумению и держится только на правительственных помочах. А так, можно было бы отмахнуться и жить за счет импорта. Тем более, что конкурентоспособная промышленность позволяет стране зарабатывать хорошие деньги.

Но сельское хозяйство нельзя свести к чистой экономике, тем более, к технологии, как это делается у нас. В цивилизованном мире всеми признано, что сельское хозяйство — это нечто гораздо большее, это культурный запасник нации, благодаря которому *воспроизводятся ее исторические традиции*. Однако «этнографический характер» западного сельского хозяйства, как уже отмечалось, отнюдь не препятствует его производительной мощи. Это особенно заметно при сравнении его с так называемым социалистическим сельским хозяйством, изобретенным в СССР. С глобальной точки зрения они как бы дополняли друг друга. Так, освоение целинных земель в конце 50-х годов привело к резкому увеличению посевных площадей в нашей стране и росту валового сбора зерна. За счет этого предполагалось интенсифицировать животноводство и, по первому, хрущевскому варианту догнать и перегнать Америку по производству мяса на душу населения, по второму — брежневско-горбачевскому — выполнить продовольственную программу, доведя среднедушевое производство мяса до 70 кг. Однако вопреки расчетам, освоение целины странным образом совпало с заключением первого контракта на экспорт заокеанского зерна.

Одновременно политический романтик Хрущев ввел резкие административные ограничения на содержание скота населением (чтобы лучше в колхозе работали!), и в стране начались голодные бунты. Тем не менее, гигантские средства выделялись на строительство животноводческих комплексов, кормовая база которых находилась за океаном. В конечном итоге, производство мяса в целом возросло незначительно (в 1960 г. его потребление на душу населения в СССР составляло 40 кг, в 1980 г. — 58 кг., а к 1990 г. должно было вырасти до 70 кг.), но существенно сократилось его производство в хозяйствах населения, а состояние животноводства стало *определяться* почти *исключительно внешними факторами*.

В конечном итоге это привело к тому, что ко времени ожидаемого изобилия для обеспечения скромного достатка СССР приходилось закупать 30-45 млн. т зерна ежегодно. Ситуация не вызывала опасений в 70-е годы, когда была возможность тратить на закупки дешевые нефтедоллары, но десятилетие спустя на это ушли валютные и золотые запасы, а в начале 90-х страна потеряла кредитоспособность. От голода спасла только гуманитарная помощь. ■

**СПРАВКА**

**В основу современной аграрной политики белорусского руководства положен тезис о превосходстве крупных (раньше добавляли — социалистических) хозяйств над мелкими капиталистическими. Преимуществах огромных, но практически никем не доказанных. А между тем, полную ясность можно внести при помощи элементарной арифметики. Сопоставив, например, эффективность сельского хозяйства в Англии и в РБ, приходишь к выводу, что для прокормления нашей страны достаточно 120.000 английских фермеров, которые могли бы освободить от «героического труда» 500.000 белорусских колхозников, миллионы «соточников», дачников и иных малоземельцев, а также шефов сельского хозяйства из когорты интеллигентов и пролетариев. При этом «томми» гораздо большее количество продукции произвели бы на 1/10 части тех сельхозугодий, которые эксплуатируют колхозы. Иными словами, Беларусь могла бы прокормит по меньшей мере 100.000.000 человек (сравнение сделано на основе Бюллетеня продовольственной комиссии ООН). И, можете поверить, без всякой демагогии насчет «особого режима труда и высочайшей ответственности» в период уборки, «продовольственной безопасности» и причитаний по поводу того, что «хлеб всему голова». При этом не было бы ни отравленной химикатами земли, ни изуродованного мелиорацией Полесья, ни вымирающих в прямом и переносном смысле витебских деревень, ни превращения страны в одну большую колхозную деревню. Не нужно было бы налаживать производство «условно чистой продукции» на Чернобыльщине, обрекая на медленное умирание тамошних хлеборобов и дозируя отраву для остального населения. А если подумать, то и нужду в Чернобыле, а значит и беду, мы придумали и сотворили для себя сами. Ведь для организации производства на 1/10 угодий не потребовалось бы такая «электрификация всей страны».**

РЭЙД

# Баявыя 100 грамаў для «бітвы за ўраджай»

Сяргей МАКСІМОВІЧ

**З кожным годам усё цяжэй даецца перамога ў бітве за ўраджай у Беларусі, у якой цалкам захавана савецкая калгасная сістэма. Сёлета па загаду са сталіцы кожнае гарадское прадпрыемства абавязана было паслаць у калгасы на працу сваіх людзей, уласную тэхніку альбо даць грошы.**

Як у савецкія часы, гродзенцаў, напрыклад, прымусова пасылаюць працаваць за 250 кіламетраў у Астравецкі раён. Усе кіраўнікі прадпрыемстваў баяцца не выканаць загад, нават калі ў іх няма для гэтага ні людзей, ні грошай. Увогуле вертыкалі ўдалося наладзіць масавую «добраахвотна-прымусовую» дапамогу горада вёсцы. Да прыкладу, аб'яднанне «Лідабудканструкцыя» паслала ўдзельнічаць у бітве за ўраджай 28 чалавек. Гэтак ж зрабілі гарадскія электрасеткі і «Лідабудматэрыялы». Абутковая фабрыка дала два свае трактары, мясцовае ПТВ — камбайн і грузавік, газаналіўная станцыя — трактар з прычэпам і гэтак далей. Нават хлебазавод прымусілі выдаць аднаму калгасу 200 тысяч рублёў на паліва.

Паліва, мауляў, калгасам вострa не хапае. Аднак гэта не перашкаджае механізатарам прадаваць яго ў самае жніво. Увогуле карціна жніва ідылічна выглядае толькі ў моцных калгасах, якіх у некаторых раёнах зусім мала. У бедных калгасах, якіх большасць, заробкі мізэрныя. Своечасова іх не выплачваюць. У калгаснікаў няма ніякай зацікаўленасці ў працы. Праца гэтая нагадвае паднявольную. Маёмасць гэтых калгасаў павінна быць падзеленая паміж вяскоўцамі — у сэнсе акцыянавання. Інакш будзе і надалей назірацца тое, што ўбачыла рэйдавая брыгада ў адным шчучынскім калгасе падчас жніва. Моцна п'янымі былі першыя два трактарысты, якія трапіліся на вочы праваральшчыкам. Прычым адзін з іх нават не здолеў дапіць бутэльку самагону, якую знайшлі ў кабіне. Самога яго, як паведамляе абласная газета, з цяжкасцю выцягнулі з кабіны, паколькі ён быў п'яны да непрытомнасці. П'яным аказаўся і камбайнер, які, убачыўшы міліцыянтаў, выкінуў з кабіны пляшку самагону.

Рэйдавая брыгада заехала на мехдвор, дзе чацвёра камбайнераў раманатавалі свае камбайны. Усе аказаліся нападпітку. Усё гэта, як зазначае карэспандэнт, было выяўлена ўсяго за паўгадзіны. Былі затрыманыя іншыя п'яныя механізатары, а яшчэ два ўдзельнікі жніва, якія скралі калгасны авёс. Мясцовай міліцыяй былі таксама заспетыя на гарачым камбайнеры, якія прадавалі паліва. Каб атрымаць грошы і купіць самагон. Такія парушэнні былі зафіксаваныя толькі ў адным з раёнаў і толькі ў некалькіх гаспадарках. Можна ўявіць, якія сапраўдныя маштабы п'янства падчас «бітвы за ўраджай» на абшарах усяе «калгаснае Беларусі». ■



Фота IREX/ProMedia

ЧАРНОБЫЛЬ

## Гандаль радыяцыйнымі грыбамі

Канстанцін УВАРАЎ

З пачатку лета супрацоўнікі праваахоўных органаў Магілёўшчыны ажыццявілі больш за 50 рэйдаў па лясах вобласці з мэтай выяўлення парушальнікаў парадку збору і рэалізацыі дзікарастучай прадукцыі. У выніку праведзенай працы каля 40 чалавек прыцягнутыя да адміністрацыйнай адказнасці.

Без спецыяльнага суправаджальнага дакумента аб радыяцыйнай бяспецы прадуктаў у вобласці аднаму чалавеку забаронена перавозіць больш чым 10 кілаграмаў дароў лесу. Разам з тым у шэрагу раёнаў вобласці выяўленыя факты скупкі без адпаведнага дазволу прыватнымі асобамі ў мясцовых жыхароў у вялікай колькасці грыбоў і ягад. Асобы неспакой праваахоўных органаў выклікае тое, што часта збіранне грыбоў і ягад вядзецца ў заражаных радыяцыяй месцах. Напрыклад, у Краснапольскім раёне, тэрыторыя якога практычна поўнасцю заражаная ў выніку выбуху на ЧАЭС, узровень радыяцыі, канфіскаваных у зборшчыкаў грыбоў, перавышаў дапушчальны ў некалькі дзесяткаў разоў. ■

БелаПАН

ТАЯМНІЦЫ

## Судно, загруженное золотом, пока не нашли

Международной команде аквалангистов пока не удалось обнаружить затонувшее в 1943 году судно, которое, как полагают, было загружено золотом, конфискованным нацистами у греческих евреев в годы Второй мировой войны. После пяти дней поисков аквалангисты признали, что им не удалось найти судна. На его борту находилось золото и драгоценности на сумму, которая, по некоторым оценкам, равняется 2,4 млрд. долларов, передает телерадиокомпания Би-Би-Си. Поиски были предприняты после того, как некий человек, известный под псевдонимом «Фантом Икс», заявил Еврейскому совету Афин, что был в заключении в одной камере с бывшим немецким бургомистром города Фессалоники Максом Мертеном, который после войны пытался достать изъятые сокровища. В 1957 году он вернулся в Грецию в качестве туриста, но был арестован и выслан в Германию. По словам «Фантома Икса», бывший нацист поведал ему, где нужно искать сокровища. Представители еврейского совета скептически отнеслись к его сообщению, однако он рассказал такие подробности, которые могли знать только бургомистр Мертен или владельцы драгоценностей. ■

**ИНТЕРФАКС**

СТАСУНКІ

## Гродзенскі падарунак расійскай субмарыне

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

Крыху гісторыі. У першай палове 1998 г. А.Лукашэнка вырашыў захапіць сімпатыі асабовага складу двух расійскіх вайсковых флотаў. Па дарозе з Нагана наведаў Ціхаакіянскі, выступаў перад афіцэрамі з прамовай. Тое ж самае з наведваннем баявых караблёў адбылося таксама на Паўночным флоце. Адразу пасля гэтага было адчыненае ў Мурманску беларускае консульства. Каб прыдумаць сабе, чым займацца, дыпламаты вырашылі аднавіць савецкае шэфства гарадоў над караблямі.

Гродна вырашалі «прышчапіць» да падводнай лодкі. Паколькі субмарыны на Паўночным флоце спрэс атамныя, яе назва не рассакрэчваецца. Беларускія дыпламаты з Мурманска параілі Гродзенскаму аблвыканкаму дзеля выканання навязаных шэфскіх абавязкаў купіць каляровы тэлевізар. Наша начальства выдзеліла грошы. Тэлевізар трэба было падараваць падводнікам у дзень расійскага ВМФ — у апошні дзень ліпеня. Аднак самім ехаць не выпадала, паколькі на грошы, якіх вымагала няблізкае падарожжа, можна было б купіць яшчэ адзін тэлевізар. Карацей, з Гродна ніхто не прыехаў. Падводнікі, як паведамляе гродзенская гарадская газета, вельмі пакрыўдзіліся на «заходнікаў». Беларуская дыпламатка Г.Снягоўская, аднак, знайшла выйсце. Тэлевізар ад гродзенцаў падводнікам Паўночнага флоту ўручылі брэсцкія чыноўнікі. Іх прыехала на расійскае ваенна-марское свята ажно шасцёра. Але ў іх была важкая прычына—адзін з караблёў назвалі «Брэстам». Вось ужо радасці для жыхароў горада па-над Бугам!

Шкада, што назва атамнай падводнай лодкі, на якой апынуўся каляровы тэлевізар ад гродзенскіх уладаў, засакрэчаная, бо надта хацелася б ведаць, у якіх морах плавае падарунак. ■









# Долгожданный реванш православного фундаментализма

## Архиерейский собор в Москве выступил против абортов, контрацепции, гомосексуалов и увеличил число святых в России сразу на 900 имен

**Михаил ЛИДНЕЙКО**

**В те дни, когда в Баренцовом море начались работы по спасению 107 моряков потерпевшей катастрофу подводной атомной лодки «Курск», в московском храме Христа Спасителя собрались 150 иерархов Русской православной церкви на юбилейный Архиерейский собор. Всеобщее внимание к катастрофе, неизвестность судьбы экипажа отодвинули в тень внимание к собору архипастырей. Поскольку принимаемые участниками собора документы далеко выходят за рамки внутрицерковной жизни, они, безусловно, повлияют на политическую жизнь России и сопряженных с ней территорий.**



Во всяком случае они отзовутся на общественной жизни Беларуси, поскольку Московский патриархат считает Беларусь своей канонической территорией, и принимаемые собором решения будут исполняться священнослужителями белорусского экзархата РПЦ безукоснительно в силу твердой, подобной на военную, церковной дисциплины.

Собор, припадающий на юбилейный год христианства, поначалу планировался как Поместный, то есть с широким представительством не только высшего церковного руководства, но и среднего, и низшего духовенства, а также мирян. В нарушение Устава церкви он не собирался уже десять лет (по Уставу – раз в пятилетку). Но поскольку массовость могла омрачить Поместный собор радикальными выступлениями, дебатами и неединоголосием, которое вызывает раскол верующих, то оказалось, что для проведения Поместного собора у РПЦ «не хватает средств». В наши дни такой довод считается неоспоримым. Половина приходов Русской православной церкви находятся за пределами Российской Федерации, и следовало принимать делегации мирян из Эстонии, Латвии, Украины, среднеазиатских республик, Беларуси, и всем предоставить трибуну. Вариант Архиерейского собора (150 иерархов) позволил решить все вопросы быстро и без «неприличествующих» споров. Собственно, были выполнены необходимые процедуры по благословению давно подготовленных документов. В целом это напоминает заседания ЦК КПСС с утверждениями выверенных партийных документов.

Бесспорным скандалом Юбилейного собора стала канонизация последнего русского царя Николая II и его семьи. Этим актом РПЦ постаралась вернуться на 80 лет назад, даже не к Октябрьскому перевороту, а ко дню Февральской буржуазно-демократической революции, когда царь отрекся от престола, и объявила о своей политической ностальгии по временам Российской империи и тем границам, в которых Русское государственное православие тогда действовало. Из этого возникает оживление разных шовинистических «Окраинных союзов русского народа», проповеди монархизма и русской исключительной миссии в этом мире.

Решение о канонизации, как и следовало ожидать, было принято единогласно. 20 августа патриарх Алексий II «с сонмом архиереев совершит в храме Христа Спасителя Божественную литургию и канонизацию всего собора новомучеников и исповедников российских». (На собор был представлен список из 1.151 имен, канонизировали 867.) В отношении царя Николая РПЦ идет следом за Российской церковью за рубежом (образованной в 1921 году в эмиграции), которая давно признала Николая II святым. Уже появилась в Ярославле чудотворная икона св.царя Николая великомученика и отмечено 9 исцелений среди тех, кто к ней прикасался, причем одно классическое – некая женщина пришла к иконе в церковь на костылях, а ушла, оставив костыли на паперти (фильм на такой сюжет назывался «Чудо св. Иоргена»). Приходится думать, что подобные иконы св.Николая, а также иконы всех новых святых появятся на территории Беларуси в храмах Русской православной церкви. Мы уже имеем в Бресте казус, когда там появился священнослужитель с инициативой возвести «Храм на крови» – точную копию построенного в Петербурге на месте казни императора Александра II народовольцем А.Гриневицким (нашим земляком) в 1881 году. Такие церкви и подобные иконы нужны, по мнению священников, для раскаяния. Но в чем должны каяться люди перед памятью Николая II, вовлекшего свою державу в две войны, на которых погибли мученической смертью миллионы людей?

Более важным вопросом, который обсуждался на Соборе, было отношение РПЦ к инославным религиям (католикам, протестантам и т.д.). РПЦ протестует против расширения католических приходов на той территории, которую считает своей канонической, а этот канон определяется границами Российской империи до 1917 года. Появление новых костелов, крещение людей в католичество вызывает упреки Ватикану в политике прозелитизма. Это первая причина, по которой патриарх отказывается от встречи с Римским Папой. Стоит посмотреть на минский кафедральный Святодуховский собор, чтобы увидеть, кто на Беларуси занимается прозелитизмом уже 200 лет. А если вспомнить, что Пинский костел был превращен в православный храм уже в 1800 году, фара Витовта – в 1804, все униатские церкви – до 1863 года, и тогда же были переведены насильно в православие не только униаты, но и десятки тысяч католиков, то разговоры о прозелитизме свидетельствуют об отсутствии у РПЦ исторической памяти в отношении своих грехов.





К вопросу прозелитизма: слева знаменитый самый старый костел Гродно — фара Витовта. Справа тот же костел, перестроенный российскими властями в XIX столетии в православный Софийский собор

Вторая причина, препятствующая встрече главы поместной церкви с римским первосвященником – поддержка Римом униатской церкви, которая, по мнениюРПЦ, «не является аутентичным наследием христианства». За претензиями на «каноническую территорию» стоят сложные религиозные отношения на Украине, где Московский патриархат желает сохранить свое бывшее ведущее положение, наталкивается на противодействие Украинской автокефальной церкви и раздражается возрождением в Западной Украине церкви греко-католической. Патриарх Алексий II считает «недопустимой католическую экспансию среди традиционно православного населения России и стран СНГ, часть которого была насильственно отторгнута от своих православных корней в период более чем 70-летнего угнетения нашей Церкви».

Похоже, очень далек от нас час, когда глава государства Ватикан и римско-католической церкви навестит с визитом Беларусь, хоть наша республика является суверенным государством и не должна зависеть от настроений или взглядов духовенства соседней страны. Многие люди не подозревают,что РПЦ – церковь поместная, есть еще 14 автокефальных православных церквей. Посему претензии РПЦ на роль опоры и защитника истинного «вселенского православия» не соответствуют реальности.

Удивительным было и решение Архиерейского собора, осуждающее аборты и приравнивающее их к убийству. Когда 150 несемейных мужчин решают вопросы аборта за женщин – это смешно. А когда они не предлагают никакой альтернативы тому, как женщине растить, кормить, одевать каждого нового ребенка в условиях нищего общества, – это безответственная моралистика. Едва ли имеет право на моральные осуждения тот, кто не стоит перед выбором.

Решения собора по замыслу его участников должны вернуть активность и привлекательность православию в 21-ом веке. Насколько помогут этому святой Николай II, осуждение абортов и препаратов, прерывающих беременность, покажет время. ■

Галоўны рэдактар
**Павел ЖУК**

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі
Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец – рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана ў друкарні УП «Мэджык»
г. Мінск, ул. Кнорына, 50. Заказ 606 Нумар падпісаны ў друк 17/08/2000 (18.00) Наклад – 9.220